# НЯХАЙ ЖЫВЕ XX ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ!

# АСІЛАК

## НАРОДНАЯ КАЗКА

У адным царстве, у вялікім гасударстве нарадзіўся Асілак. Жыве ён, у сілу ўбіраецца ды да жыцця прыглядаецца. А жыццё было — і гаварыць жудасна. Дзень і ноч працавалі людцы гаротныя, пот праліваючы, на паноў-крывасмокаў, а тыя толькі жырэюць ды ўсміхаюцца. Усюды ваяводаў панастаўлялі, прыставаў. Б'юць бедняка, рабуюць.

Працуюць людзі на зямлі, пад зямлёй — у шахтах, ды жыццё аплакваюць. Як убачыў гэта Асілак, дык сэрца ёкнула, ад жаласці забалела. Не есць ён, не п'е, а ўсё думу думае: як гэта зрабіць, каб людзі дружна і багата жылі. Доўга думу думаў Асілак і надумаўся хадзіць па свету, людзей навучаць.

Сабраў ён раз люду цьма-цьмой. Сабраў і пачаў навучаць іх, каб стрэлы вайстрылі, нажы тачылі ды на паноў ішлі. Слухаюць людзі бедныя Асілка, як бацьку роднага, ды розуму набіраюцца. І пайшла слава па ўсяму свету пра добрага чалавека.

Прачулі гэта паны, знюхалі ды выдалі такі загад — злавіць Асілка і забіць яго. Пачулі людзі пра загад панскі і захавалі Асілка ў цёмным лесе, каб ніхто не знайшоў.

Але не доўга хаваўся Асілак. Сабраў ён яшчэ больш людзей і пайшоў на паноў ваяваць. Спужаліся паны, як асінавы ліст задрыжалі, і паслалі сваё войска супроць Асілка. Каля цёмнага лесу яны сустрэліся. Завязаўся бой, што лес гуў і клаўся ад тупату і стукату. Біліся асілкавыя войскі з панскімі. Але паны былі тады моцнымі, яны перамаглі.

Зноў насунулася на тое царства, на вялікае гасударства ноч чорная. Застагналі людзі бедныя, палілася кроў ад расправы панскай.

Жывуць людзі, зноў гаруюць ды пакутуюць. А тут, як на сваю пагібель, пачалі паны ваяваць паміж сабой. Давай беднякоў пасылаць у бой. Біліся, біліся яны ды кажуць:

— Годзе нам з голаду пухнуць ды ў лахманах хадзіць! Хай-тка паны самі паваююць!

Пачуў гэта Асілак ды ўзрадваўся:

— Гэта добра, сыны мае родныя! Толькі трэба паноў пабіць ды па-новаму зажыць!

Паслухалі Асілка бednякі, пачалі паноў лупіць, пачалі іх калаціць. А Асілак узяў пушку, выкаціў на плошчу шырокую ды як гухнуў у царскі дом, — аж зямля закалацілася, мора замуцілася. Пачулі ўсе ўсюды стрэл Асілка, — збегліся да яго, у палацы пайшлі паноў латашыць, капіталістаў душыць. А ён ваюе і людзей навучае:

— Не здавайцеся, браты!

Паслухалі людзі свайго бацьку і паноў ушчэнт разбілі.

Скончылася вайна. Цяпер перамаглі асілкавы войскі.

Давай людзі па-новаму жыць ды Асілка слухаць. А жылі яны дружна, як браты родныя.

І раптам бяда звалілася на людзей — памёр Асілак. Падарвала сілу смелага ваяводы змяя чорная. І давай тут людзі плакаць, хто як мог. Яго саратнікі-асілкі, і тыя плакалі. Плакалі памочнікі яго, рыдалі сокалы верныя.

Плакалі людзі доўга ці мала ды парашылі зрабіць вялікаму чалавеку такую дамавіну, каб ён ляжаў там, як жывы, каб ворагі і мёртвага баяліся яго, каб усе дзеці маглі паглядзець на дарагога бацьку. Нанеслі граніту моцнага, цэглы чырвонае і змуравалі вялікі каменны будынак.

Праходзяць людзі каля труны вялікай, глядзяць на ясны твар памёршага Асілка. А ён ляжыць як жывы і нібы гаворыць людзям:

— Не здавайцеся, голубы мае крылатыя, перамагайце прыгнятальнікаў ва ўсім свеце!

**Запісана ад калгасніка Сакаўца Андрэя. Выдрыцкі сельсовет, Крупскі раён.**



АРГАНІЗАТАР І ПРАВАДЫР ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ ЛЕНІН

*З карціны мастака ГЕРАСІМАВА*



*У сакавіку 1917 г. Ленін вярнуўся з заграніцы. Працоўны народ з радасцю сустрэў свайго правадыра. З першых-жа дзён Ленін стаў заклікаць рабочых і сялян на змаганне супроць буржуазіі і памешчыкаў, за совецкую ўладу. Буржуазны і памешчыцкі ўрад баяўся Леніна і загадаў сваім агентам арыштаваць яго. Па настаянні партыі Ленін схаваўся. Ён вымушан быў часова пакінуць рэволюцыйны цэнтр—Петраград. Ленін пераадзеўся рабочым і з пашпартам на імя рабочага Іванова хаваўся ў шалашы ў ваколіцах Петраграда, а яшчэ праз нейкі час пераехаў у Фінляндыю, адкуль ён кіраваў падрыхтоўкай паўстання. Увосень, калі паўстанне было падрыхтавана, Ленін тайком вярнуўся ў Петраград і разам з сваім лепшым саратнікам т. Сталіным павялі працоўных у бой за совецкую ўладу. Соцыялістычная рэволюцыя перамагла.*

*У вершы „Хатка над возерам“ расказваецца пра жыццё Леніна ў Фінляндыі.*

НАТАЛЯ ЗАБІЛА

# ХАТКА над ВОЗЕРАМ

Не за сінімі глыбокімі марамі,
не за дальнімі высокімі гарамі,
а ў краіне, дзе лясы стаяць дрымучыя,
дзе азёры разлягаюцца бліскучыя,—
там жылі з сваёю мамаю і татам
двое беленькіх вясёлых хлапчанятаў.
Вось аднойчы кажа мама:—Дзеці,
вы-ж сягоння не шуміце, не дурэйце,
няхай будзе ў хаце чыста і прыбрана,
бо да нас прыедзе сёння госць жаданы.
І прыехаў. Вось заходзіць ён у хату,
усміхнуўся: „Добры дзень, хлапчаты!“
А хлапчаты мовы рускае не зналі
і на мове фінскай госцю адказалі.
Госць астаўся жыць тут з таго часу,
Спадабаўся дзецям ён адразу,
бо такі ён ласкавы і добры
і такі на іншых непадобны.
Ледзве толькі заяснее сонца зранку—
госць прачнецца і на двор сыходзіць з ганку.
Дзеці на двары яго даўно чакаюць,
Дзядзю з радасцю яны вітаюць.
Возьме дзядзя па-сяброўску іх за рукі,
ды і пойдуць яны ў лес праз лукі.
Сосны ў лесе стройныя, сталеткі,
сустракаюць госця гоманам прыветным,

а над возерам, над сінім і бяздонным,
усміхаюцца ім кветкі ласкавым паклонам.
Цэлы дзень хлапчаты разам з госцем,
ён такі лагодны з імі, просты:
то ён вучыць іх расійскай мове,
то на возеры з хлапцамі рыбу ловіць,
ходзіць з імі па чарніцы ды брусніцы,
або з таткам ён ідзе на касавіцу.
А ўначы, калі навокал сон і ціша,
ён да познага штось думае і піша.

На дварэ аднойчы бегалі хлапчаты,
чуюць—госцю кажа тата:
— „Чуў я, чалавеча, не аднойчы,
як змагаўся ты за шчасце ўсіх рабочых,
за жыццё, за волю ды за працу,
а паны усе цябе баяцца,
на цябе паны ўсе дужа як злуюць,
хочуць у турму цябе замкнуць,
каб не мог твой голас к праўдзе заклікаць,
на змаганне люд працоўны падымаць.
І таму прыехаў ты да нас,
каб схавацца ад паноў на пэўны час.
Толькі-ж нас, працоўных, многа,
над панамі возьмем перамогу,
і таму ты ўсіх паноў дужэйшы,
бо тваё нам слова найраднейша,
бо высокія твае імкненні,
бо тваё імя вяліка—Ленін!"

Хлопцы слухалі...
А хутка госця дарагога
дзеці праваджалі з хаты ў шлях-дарогу.

З той пары над возерам знаёмым—
такім блізкім, простым і вядомым—
новым стала ўсё і незвычайным,
нібы ўсё навокал знала тайну.
Гаямніча хвоі шапацелі,
Растлумачыць дзецям не хацелі:
— хто-ж той госць, што з дзецьмі любіць забаўляцца,
а яго усе паны баяцца?
І чаму на свеце ён за ўсіх дужэйшы,
і якое-ж гэта слова найраднейша?
І чаму яго высокія імкненні,
а імя кароткае такое—Ленін?

* * *

З той пары гадоў прайшло нямала,
і хлапчаты ўжо даўно павырасталі,
і прыветлівага госця ўжо не маем...
Толькі слова йдзе ад краю і да краю;
імя Леніна вядома ў цэлым свеце,
знаюць Леніна усе малыя дзеці,
слова Леніна гучаць будзе вякі,
справу Леніна вядуць большэвікі.

Пераклаў з украінскай мовы **Анат. Астрэйка**





*Таварыш Сталін у 1-ай коннай арміі ў снежані 1919 г.*

*З карціны мастака* ***АВІЛАВА.***

# СТАЛІНУ ДЗЯКУЙ УСЮДЫ ГУЧЫЦЬ

Краіна Советаў
Усіх шчаслівей
І песні спявае
За ўсіх прыгажэй.

А песні пра тое,
Што весела жыць,
І Сталіну дзякуй
Усюды гучыць.

Ён ленінскім шляхам
Да шчасця вядзе,
Пад ленінскім сцягам
Краіна ідзе.

Ён ворагам нашым
Патачкі не дасць,
Сцяг Леніна будзем
Мацней мы трымаць.

Край родны квітнее
Цвятамі вясны,
Мы Леніна племя—
Сталіна сыны.

*Калгаснік Я. СМОЛЬСКІ.*

*К-с Пралетарый, Хойніцкі р-н.*

# ВЯЛІКАЯ ПАБУДОВА



*Таварыш Сталін аглядае канал Волга—Масква.*

Па мыслі таварыша Сталіна гераічны савецкі народ пабудаваў за гады рэвалюцыі шмат велізарнейшых заводаў, электрастанцый, розных машын, злучыў між сабой каналамі моры і рэкі. Адной з найвялікшых пабудоў з'яўляецца канал Волга—Масква. Праз 228 кілометраў канала, праз новае Маскоўскае мора ходзяць зараз параходы і цеплаходы з вялікай рускай ракі Волгі ў Масква-раку. Вада ў Масква-рацэ паднялася, і па ёй пайшлі параходы. Міма Чырвонага Крэмля цякуць цяпер волжскія воды.

Канал Волга—Масква—адзін з самых вялікіх каналаў у свеце. Першым задумаў пабудаваць гэты канал таварыш Сталін.

*КАНАЛ ВОЛГА—МАСКВА. Пасажыры цеплахода „Іосіф Сталін" вітаюць сустрэчны катэр „Молакаў".*

А. ЯКІМОВІЧ




# Выпадак на чыгунцы

*Апавяданне піонера*

*Мал. К. Гедда.*

Я вельмі люблю рэчку. Гэта ўвесь для мяне прыпынак. І калі-б маці не клікала ўдзень на ўсю вакоЛіцу: „Па-а-а-ўлік, абе-е-е-даць!“ дык я-б мог і дацямна не варочацца.

Хата мяне не вабіць так, як рэчка. Стаіць яна адна сярод чыста поля. Ні табе пагуляць з кім, ні загаварыць. Адно што мне падабаецца—праход паяздоў. Як дзень, так ноч, ідуць яны ды ідуць. І ніколі ніводзін не спыніцца. Падасць голас, прывітае бацьку з яго сцяжком, і пачахкае дзесьці аж на граніцу (яна ад нас не так далёка). З вокан махаюць рукамі пасажыры, а я ім. „Бывайце, бывайце!“ хачу я сказаць ім маханнем рукі.

Рэчка ад нашага блок-паста за ганок трое. Яна нешырокая, з нізкімі берагамі, якія густа зараслі яварам, сітнікам і чаротам. Плыве сабе, як у вянку. Толькі сям-там бераг крыху ўзвышаецца, і зусім рэдка вы знойдзеце на беразе пясок. Затое скрозь растуць кусты лазы, ракіты і алешніку.

У высокім куп'і і кустах водзяцца розныя балотныя птушкі—бакасы, кулікі, кнігаўкі, качкі... Ідзеш, бывае, балотам, высока падымаючы ногі, і раптам—фррр! з-пад самых у цябе ног. Расхінеш траву, а там—гняздзечка з яечкамі або птушаняткі, рассыплюцца як гарох у розныя бакі. Птушка-маці кружыцца вакол, крычыць, бедная, хоча дзяцей абараніць.

Ды па мне магла-б і не турбавацца. Я—не птушкалоў, а рыбак. І такі, якога пашукаць, як кажуць. У мяне аж пяць вудаў—і з малымі кручкамі, і з большымі, і нават адна на шчупака, з вялізным кручышчам. Для ракаў у мяне ёсць сетка. Словам, цэлая рыбацкая гаспадарка.

Праўда, рыба ўсё-ж дрэнна ловіцца. Гэта, здаецца, адзіны недахоп у маёй рыбацкай справе. Ці то рэчка вінавата, ці вуды—не ведаю, але ўловам пахваліцца асабліва не магу. Галаўні і язі—рыба хітрушчая, падмануць іх не лёгка; акунёў трэба шукаць, і яны таксама не вельмі, відаць, дурныя: не хочуць брацца. Самая чыстая работа—пяшкуры і яршы. Гэтых дык лаві, колькі хочаш. Спрэс дурная рыба.

Але зусім не аб гэтым—аб другім хачу я расказаць.

Было яно так.

Паснедаўшы, я падаўся на рэчку лавіць занаджаных акунёў: цэлы збанок чарвей усыпаў ім нанач.

Сяджу, лаўлю. Пагода слаўная. Сонца прыпякае, як перад дажджом. Неба чыстае, нібы шкло. На беразе раззыкаліся авадні і розная іншая драбяза. Яны так і наровяць, каб паспытаць маёй крыві. Адганяю я машкару, а сам з паплаўка вачэй не спускаю. Акуні клююць добра: прынада, відаць, нагнала ім апетыту. Але бяруцца не вельмі. Праўда, за гадзіну якую я ўсё-ж вывудзіў з пяток акуньчыкаў. Ладныя такія, плёхаюцца ў збанку, радуюць маё рыбацкае сэрца.

Толькі гэта затрапятаўся быў у мяне паплавок (відаць, акунь абнюхваў чарвяка), як нехта падышоў ззаду, і я аглянуўся.

— Клюе?—запытаў чалавек, які падышоў.

— Не вельмі,—кажу.

Я прыгледзеўся лепш: твар чалавека быў мне зусім незнаёмы. У правай руцэ ён нёс вуды. На ім быў стары, не раз латаны, касцюм, на галаве—такая-ж падраная шапка. На непрыгожым васпаватым твары тырчэў вялікі, як добрая дуля, чырвоны нос. Што яшчэ кідалася ў вочы на першы погляд—дык гэта абвіслыя мяшкі пад вачыма. Сам ён быў рослы і тоўсты, з доўгімі, як у арангутанга, рукамі. Цяжка было сказаць—гарадскі гэта чалавек ці вясковы, стары ён ці малады (замест вусоў і барады на яго жоўтым твары скрозь расло кароткае рыжае шчаціннє)—але агульны выгляд яго наводзіў на мяне страх. Адны толькі вуды сведчылі, што гэта свой брат—рыбак. Рыбакоў я паважаю. Яны хоць і рэдка, але наведвалі гэты глухі зацішны куток.

Незнаёмы рыбак кінуў у траву свае вуды, падняў мой збанок.

— Акуні?

— Ага,—кажу,—акуні.

Потым ён прысеў на карачкі і ўтаропіўся на паплавок. Чарвяка ўсё яшчэ смакаваў той самы акунь. Але цяпер ён увіхаўся каля яго жвавей, бо паплаўка не адпускаў ні на момант.

— Цягні,—параіў незнаёмы рыбак, калі паплавок даў нурца ў дно.

Я шмаргануў за вуду і выкінуў на бераг невялічкага акуньчыка. Незнаёмы жыва ўсхапіўся, зняў з кручка акуньчыка і, папляваўшы на яго, укінуў у збанок. Мяне здзівіла, а разам з тым і спадабалася паслуга старога рыбака. З гэтага моманту я стаў глядзець на яго інакш. Мне ўжо стала здавацца, што ён нават і не такі страшны. Што-ж, рабы, і толькі.

— Ты адкуль, хлапак?—запытаў ён праз нейкі час.

Я адказаў.

— А вы, мусіць, не з тутэйшых будзеце? Блізкіх рыбакоў дык я ведаю траха ўсіх,—запытаўся і я ў сваю чаргу.

Дзядзька, здаецца, не з дрэнных. Можна скарыстаць выпадак і пагутарыць, а то ў нас-жа такое шчасце трапляецца рэдка.

Рабы, не гледзячы на мяне, адказаў:

— Я тут да аднаго прыехаў...

— Куды?

— Ды, вунь, у вёску,—паказаў ён рукою.

— У Зазер'е?

— Але... Дык паспрабаваць хіба ці што?

— Спрабуйце,—кажу,—хоць мне і не хацелася гэтага, бо месца ў мяне занаджана, а рабы, відаць, рыбак не мною будучы: возьме ды вывудзіць усіх маіх акунёў.



*Ён прысеў на карачкі і ўтаропіўся на паплавок.*

— Да каго-ж вы з Зазер'я прыехалі?— пацікавіўся я.—Мне там многія знаёмыя. Я ў школу туды зімою хаджу.

Рабы закашляўся. Потым прамармытаў паціху пад нос сабе:

— Да Васіля...

— Канцавога, можа?—перапытаў я.

— Канцавога... канцавога...

На гэтым наша знаёмства скончылася, хоць імён сваіх мы адзін другому і не сказалі.

Рабы ўсё-ж, на маю радасць, не стаў лавіць маіх акунёў. Ён адышоўся крыху ўбок, але неўзабаве вярнуўся зноў. У руцэ ён нёс вялізную плотку. Падышоўшы, ён укінуў плотку ў мой збанок і сказаў:

— Няхай табе будзе. Што я з аднае рабіць буду?

Я падзякаваў.

Рабы прысеў і стаў гаварыць. Усё распытваў. Відаць, што чалавек не тутэйшы. Асабліва яго цікавілі паязды—колькі разоў на дзень ходзяць і якія, калі ідуць. Недалёка ад нас, за лесам, ваенны гарадок. Я быў там разы са два. Дык ён як прычапіўся да мяне з гэтым гарадком! І колькі там войска і ці ёсць гарматы, і ці ходзяць сюды ваенныя паязды... Я нічога толкам не ведаў. Мяне аж злосць пачала разбіраць на яго. Прычапіўся, як смала. Вось якія цікавыя людзі бываюць на свеце! А няхай іх з такімі людзьмі!..

Удзень маці паклікала мяне на абед. Я развітаўся з рабым і ахвотна пайшоў дадому. Нагаварыўся, хопіць.

II

На другі дзень рабы прышоў зноў. Ён падгаварваў мяне пайсці з ім у ваенны гарадок. „Я,—кажа,—сам быў ваенны, дык мяне да ваенных і цягне. Цікава ўсё-ж паглядзець, як там і што“.

Мне зусім не хацелася цягацца з-за яго. Я сказаў, што маці мяне адпусціла толькі на хвілінку, што мне трэба памагаць ёй палоць грады. Рабы згадзіўся. „Тады другім разам,—кажа,—сходзім“.

Я нічога не адказаў. У мяне чамусьці мільганула нядобрая думка пра гэтага чалавека. Вельмі-ж ён усім цікавіцца. Тут-жа я парашыў сам сабе схадзіць у Зазер'е праведаць, хто ён і што. Можа, думаю, шпіён які ўнадзіўся хадзіць да мяне. У Зазер'і, апрача гэтага, у мяне былі і другія справы: трэба было ўбачыць важатага і даведацца, калі будзе збор атрада ды і наогул распытаць пра навіны.

Назаўтра на рэчку я не пайшоў. Не хацелася болей сустракацца з рабым. Ён мне і так надаеў з сваім прыставаннем.

У Зазер'е я выбраўся пасля абеда. Вышаў на чыгунку і пайшоў збоку гладкаю сцежкаю. Зімою я таксама сюдою хадзіў.

Ісці было лёгка і прыемна. Рэйкі аж блішчаць пад сонцам. Абапал чыгункі сенажаці з кустамі і гаямі. Пахне кветкамі і зелянінай. Цёплы свежы ветрык шчыкоча твар.

Іду я, насвістваючы матывы любімых песень. Асабліва мне падабаецца: „Па дарогах знаёмых за любімым наркомам мы каней баявых павядзем“... І здаецца, што я насвістваю не матыў, а свістам вымаўляю гэтыя словы з іхнім захапляючым зместам. Я жыва ўяўляю гэты малюнак, і сябе адным з кавалерыстаў. Мне здаецца нават, што я еду проста ўслед за самім наркомам. Конь аж гарцуе пада мною ў такт марша.

У адным месцы яшчэ здалёк заўважаў я, што бліскучая пад сонцам рэйка як-бы пакрывілася. Падыходжу бліжэй—так і ёсць: рэйкі расшрубованы і крыху ссунуты ў бакі.

У мяне ўсё закалацілася ў сярэдзіне. Кола не пройдзе праз гэтую пастку. Для мяне гэта было ясна. Тут-жа я ўспомніў, што бліжэйшы поезд па гэтай лініі павінен быць пасажырскі... Але-ж ён не скора яшчэ прыдзе. Мяркуючы па сонцу, яшчэ гадзіны са дзве да яго прыходу. Можна паспець збегаць дамоў сказаць бацьку. Ворагам не даждацца крыві нашых людзей. Звяры! Вось чаго яны захацелі!

Я завярнуўся і хутка пабег назад. Першае хваляванне праходзіла. Апрача ўсяго, у мяне на шыі гальштук, і, калі-б нават паказаўся поезд знячэўку, можна было-б яго спыніць.

Не паспеў я адбегчыся шагоў сотню, як раптам дарогу мне перарэзаў знаёмы рыбак. Ён вынырнуў проста з кустоў. У руцэ ў яго былі знаёмыя мне вуды.

— Ты куды так ляціш?—затрымаў ён мяне.

— Дамоў,—кажу,—рэйкі там...

Тут я схамянуўся і пакаяўся за неасця-



*Я хацеў устаць, але рукі і ногі мае аказаліся звязанымі.*

рожнасць. „Можа гэта ён сам і зрабіў“, падумаў я.

— Што—рэйкі?—запытаўся рабы, падступаючыся бліжэй.

— Нічога... Дамоў мне трэба хутчэй,—адгаварыўся я і шагнуў убок. Але ў тую-ж хвіліну адчуў, што каўнер маёй рубашкі затрашчаў у руках рабога.

— Мне няма калі... Пусціце!

Я глянуў рабому ў вочы. Што ён—жартуе ці напраўду? Але гэты погляд не абяцаў мне нічога добрага. Твар яго быў страшны, вочы лютыя. Я задрыжаў усім целам і стаў крычаць: „Пусці! Я бацьку скажу!..“

Рабы сапхнуў мяне з чыгункі і пацягнуў у кусты. Не паспеў я апамятацца, як ён паваліў мяне і запхнуў у рот нейкую анучу. Я не даваўся як мог. Але рабы стукнуў мне нечым цвёрдым па галаве, і я страціў прытомнасць.

Калі я прышоў да памяці, дык зноў убачыў перад сабою рабога. Ён сядзеў на купіне і курыў. Я хацеў устаць, але рукі і ногі мае аказаліся звязанымі. Я стаў качацца па траве з заплыўшымі ад слёз вачыма. Крычаць і прасіцца я не мог: у роце ў мяне ўсё яшчэ была ануча.

Рабы, выкурыўшы папяросу, падышоў да мяне, капянуў нагою ў бок і сказаў:

— Выбірай, шчанё: або ў балоце гніць. або правядзеш мяне, а там я адпушчу цябе..,

Цяпер мне і без высвятлення было ясна, хто такі мой знаёмы рыбак. Я не сумняваўся, што ён будзе здольны на тое, каб пакінуць мяне ў балоце гнісці.

Што-ж, прышлося згадзіцца стаць у рабога праважатым, як гэта не цяжка было. Выходзіла, што я павінен дапамагаць бандыту.

— Толькі ведай,—сказаў рабы,—ты будзеш ісці са мною поруч. Уцякаць—нават і не думай. Бачыш гэтыя цацкі,—ён паказаў рэвальвер і фінку,—не адна, дык другая дагоніць. Калі хто трапіцца па дарозе і будзе што пытаць—адказваць не смей. Я адкажу сам. Чуеш? Жыццё тваё ў маіх руках.

Рабы развязаў мне рукі і ногі, дастаў з рота анучу. Ад хвалявання ў мяне не траплялі зуб на зуб.

А як-жа поезд? Я глянуў на сонца. Быў адвячорак...

— Добра, я пайду,—сказаў я рабому,—толькі папраў рэйкі. Ты хочаш забіць і пакалечыць дзесяткі людзей.

Але рабы не даў мне доўга размаўляць і звяртацца да яго даўно страчанага сумлення. Ён зноў стукнуў мне кулаком у патыліцу, і я паляцеў старчма ўперад.

— Пайшлі,—сказаў ён,—і помні: адзін рух убок і ты...

Ён не дакончыў сваёй пагрозы, ды мне і так было ўсё ясна.

У мяне млелі і падгіналіся ногі. У галаве стаяў незвычайны шум. Мне пачалі здавацца жахі крушэння. Цяпер яно немінуча.

Я хапаўся за ўсякую думку, якая магла-б абяцаць які-небудзь ратунак. „Рабы спадзяецца ўзяць мяне страхам смерці. Няхай не вельмі то спадзяецца“,—думаў я.

Спачатку мы ішлі балотам. Навокала пуста. Ні жывой душы. Сенажаці яшчэ стаялі не



*Дзеці падзівіліся на нас і пайшлі сваёю дарогаю.*

кранутымі. Далёка на полі відаць былі дзве жанчыны. Яны, мусіць, палолі, бо працавалі сагнуўшыся. Рабы не пайшоў на іх. Ён абмінуў і дарогу, а пайшоў цераз поле разораю ў бок лесу.

Гэты манеўр яго разбіваў мае надзеі. Значыць, ён хітруе, і не вельмі спадзяецца на мяне. Аднак я ведаў, якую раблю яму паслугу: са мною ды яшчэ з вудамі ніхто і не палічыць яго падазроным. „Лепш праваліцца-б скрозь зямлю, чым быць слугою бандыта“, думаў я.

На дварэ вечарэла. Рабы, мабыць, сабраўся ўцякаць гэтай ноччу заграніцу. Ліха яго ведае.

Я гляджу на ўсе вочы. Няўжо не трапіцца ніхто з людзей. Здалёк па дарозе—бачу я—людзі ездзяць і ходзяць. Але-ж не паспееш ступіць і шагу, як рабы затрымае. Ён не спускае з мяне вока.

У лесе было спакойна. У адным месцы толькі стрэлі трое дзяцей з кошыкамі ягад. Яны зацікаўлена падзівіліся на нас і пайшлі сваёй дарогаю. Вось каб маглі ведаць яны мае думкі! Каб маглі расказаць за мяне аб падрыхтаваным крушэнні!

Я разрываўся ад жалю. Мо‘ гэта была адзіная магчымасць выратаваць людзей, і я вымушан так лёгка траціць яе. Пакуль я разважаў так, дзеці былі ўжо далёка. Слёзы пакаціліся па маім твары. Потым я не стрымаўся і заплакаў наўзрыд. Рабы паказаў мне фінку, прыгразіўшы: „Перастань, а не—ты больш мне не патрэбен“...

Мы ішлі доўга, пакуль зноў не паказалася поле. На гарызонце дзесьці чарнелася сцяна другога лесу. Там недзе і была граніца, па маіх меркаваннях.

Раптам рабы спыніўся, схапіўшы мяне за рукаў. У тую-ж хвіліну я ўгледзеў недалёка двух ваенных коннікаў, якія пад‘язджалі да лесу. З-за жыта мне было відаць толькі, як яны падскоквалі ў сёдлах. Коні беглі трушком. Рабы, відаць, замяшаўся. Каб не выклікаць западозранасці, ён павольна пайшоў ускрайкам лесу ў бок дарогі.

Коннікі ўязджалі ў лес, не звяртаючы на нас увагі. І ў той момант, як яны вось-вось гатовы былі знікнуць за першымі дрэвамі, я не вытрымаў, на ўсю сілу рвануўся ўперад. Рабы не чакаў гэтага. Разгубіўшыся, ён выпусціў мяне з рук.



*Рабы сядзеў на зямлі з паднятымі ўверх рукамі.*

— Ратуйце!—нема крыкнуў я.

Коннікі спыніліся. Для іх мой крык быў незразумелы. Яны чакалі, мабыць, пакуль я сам прыбягу і раскажу толкам, чаго хачу.

Але я не дабег. Ззаду грымнуў стрэл. Куля прасвістала ў мяне над самай галавой. Мне здалося, што яна прабіла мяне навылёт. Я ўпаў. У гэты час каля мяне віхрам праімчаліся коннікі-пагранічнікі. Потым я бачыў, як яны пасаскоквалі з коней і, з вінтоўкамі ў руках, пабеглі ўглыб лесу. „Стой! стой!...“ чуліся адтуль іхныя выкрыкі.

Апамятаўшыся, я ўсхапіўся і кінуўся наўздагон за пагранічнікамі. „Ліха з ім, з бандытам гэтым!“ думаў я. Поезд трэба ратаваць, калі не позна...

Праз хвілін пяць я знайшоў пагранічнікаў у гушчары лесу. Яны абшуквалі рабога, які сядзеў на зямлі з падстрэленай, як заўважыў я, нагой і з паднятымі ўверх рукамі. Не зважаючы на яго, я ў некалькіх словах расказаў пагранічнікам аб падрыхтаваным гэтым бандытам крушэнні поезда недалёка ад блок-паста №.... Патрэбна зараз-жа ляцець конна на блок-пост. Можа яшчэ не позна...

Выявілася, што пагранічнікі не ведаюць прасёлачнай дарогі да нашай хаты.

— Я паеду з кім з вас,—кажу я.—Толькі хутчэй!

Пагранічнікі згадзіліся.

— Пачакай, Грыша, тут. Вартуй,—сказаў адзін з іх свайму таварышу.

Пагранічнік памог мне ўсесціся на каня, сам сеў на другога.

— Валяй!—сказаў ён.

Дарога была мне знаёмая. Мы паспелі адыйсціся не больш дзесяці кіламетраў. У гэты лес мы часта прыходзілі з маткай па ягады і арэхі.

Я тузануў каня пavaдамі, загалёкаў, і ён ірвануў наўгалоп, чуць не валіўшы мяне з сядла. Ногі мае не даставалі страмён.

— Зніміце сядло!—крыкнуў я пагранічніку, спыняючы каня.—Так лепш будзе. У сядле я не ўмею.

Ён зразумеў.

Без сядла я адчуваў сябе вельмі добра. Ашчарэпіў каня нагамі пад бакі і моцна ўплёўся адною рукою за грыву. Ездзіць конна я вялікі ахвотнік, хоць мне і рэдка траплялiся такія выпадкі. Прыходзілася ўпрашваць вясковых пастушкоў, каб далі праехаць на кані.

Сонца ўжо было на захадзе. Над палямі павеяла вячэрняй прахалодай. Я адчуваю, як сэрца маё б'ецца ўсё мацней. Конь ляціць на ўсю выскачку. Бакі яго зрабіліся мокрымі. Пагранічнік коціць за мною ўслед. На шырэйшай дарозе ён падраўніваецца і ідзе поплеч. Праязджаючы ў адным месцы каля пасёлка, я падумаў быў аб тэлефоне. Але парашыў, што ў выпадку няўдачы можна рызыкаваць патраціць лішні час.

Апошняя дарога, куды мы звярнулі, вядзе проста праз наш блокпост. Яшчэ здалёк я заўважыў адкрыты шлагбаум. Значыць, усё скончана. Позна! Звычайна за хвілін дзесяць да прыхода поезда шлагбаум бывае закрыты. Справа ясная... З гарачкі я не заўважыў нават падазронага спакою каля хаты.



Бацька выбег з хаты, калі ўбачыў нас ужо на двары. Ён раскрыў рот, хацеў штосьці сказаць, ды так і не мог вымавіць ад здзіўлення. Коні нашы былі ў мыле, цяжка дыхалі. Самі мы былі страшэнна ўсхваляваны, расчырванеліся і ад хуткай язды і ад узбуджанасці.

— Поезд прайшоў?—крычу я здзіўленаму і, відаць, перапалоханаму бацьку.

Бацька глядзіць то на мяне, то на пагранічніка.

— Што з табою?.. Адкуль вы?..—пытаецца ён, нарэшце, замест адказу.

Я ледзь растлумачыў яму, чаму гэта нас цікавіць.

— Поезд пройдзе праз дзесяць-дванаццаць хвілін. Можаце быць спакойны,—кажа павесялеўшы бацька.

У мяне ўвесь цяжар зваліўся з сэрца. З радасці я кінуўся бацьку на шыю і пацалаваў яго ў шчаку, нібы гэта ён вінават быў у тым, што поезд яшчэ не прышоў.

* * *

Праз некалькі дзён я атрымаў пісьмо. У ім камандванне № пагранчасці абвяшчала мне падзяку за дапамогу ў затрыманні буйнага шпіёна і дыверсанта адной суседняй замежнай дзяржавы. А кіраўніцтва чыгункі, апрача падзякі, прыслала прэмію, аб якой я нават і не сасніў-бы ніколі. Спінінг! Для такога заўзятага рыбака, як я, гэта было даражэй за ўсе прэміі на свеце.

Цяпер я не лаўлю яршоў і пяшкуроў. Дробязь. Ці варта час траціць. На днях я злавіў сваім спінінгам шчупака фунтаў на пяць! Вось гэта дык рыбка!

# ДЗЕД І ЎНУКІ

Верш А. Крота

Ля дзеда унукі
Паселі ўтраіх.
Мінулае ўспомніў
Дзядуля для іх:

„Ой, многа я, ўнучкі,
Цярпеў, гараваў:
На пана праклятага
Я працаваў.



За хлеба кавалак
Змагаўся з бядой.
Клаў сосны у лесе
Халоднай зімой.

Сляпы, непісьменны
Я жыў, нібы крот...

* *
*

Ды вось у кастрычніку
Ўзняўся народ.
Іначай пачаў
На жыццё я глядзець.
Пакінуў быў жонку,
Пакінуў дзяцей,
А сам к партызанам
Адважным пайшоў.
Крышыў разам з імі
Праклятых паноў.
А там падаспела
Чырвоная раць.
Давай тут паны
У Варшаву ўцякаць!..



* *
*

Квітнець з таго часу
Стаў вольны наш край.
Цяпер вось яго ты
Паспрабуй пазнай.

Не дарма прапала
Пралітая кроў:
Нас Сталін любімы
Да шчасця прывёў.



* *
*

Сядзяць ціха ўнукі,
Хоць позны ўжо час,
І ўважліва слухаюць
Дзедаў расказ.

*Малюнкі А. К.*



# НА ВАРЦЕ СОВЕЦКІХ ГРАНІЦ

## ПАГРАНІЧНІК КАРАЦУПА

Невялікая рэчка аддзяляе пагранічную заставу Палтаўку ад манчжурскага гарадка Санчагоу. З нашага боку можна ўсё бачыць, што ў ім робіцца.

Увечары ў Санчагоу рана гаснуць агні. Над балотам і зараснікамі спускаецца ноч.

Ці-ж сапраўды так спіць манчжурскі гарадок? Ці сапраўды ціха ў зарасніках? Больш чым хто другі не давяраюць цішыні Карацупа і яго чацвераногі таварыш—сабака „Індус". За гады работы ў атрадзе імя Кагановіча Карацупа з сваім таварышам „Індусам" затрымалі звыш сотні парушальнікаў граніцы.

Вось што апавядае т. Карацупа пра адзін такі выпадак:

„Быў я ў нарадзе. Кілометраў за чатыры ад граніцы „Індус" знайшоў след. Насцярожыўся і зарычэў; значыць, чужы, сваіх „Індус" ведае. Прабеглі мы з „Індусам" па сляду кілометраў 16 ад граніцы. Стаў я даганяць парушальнікаў. Падпаўзаю, каб парушальнікі, якія сядзелі на траве пад хмызняком, не заўважылі мяне. Крыкнуў я ім: „Стой", і думаю: іх многа, яны мяне могуць на кавалкі разарваць.

Тут я пайшоў на хітрасць: падаю каманду байцам, якія нібыта знаходзяцца разам са мною, заняць такія-то і такія-то пазіцыі. Сам іду рабіць вобыск. Бачу толькі трох чалавек. Пытаюся, ці ёсць яшчэ людзі. Мне кажуць, што няма. Тады „Індус" стаў шукаць па кустах і сабраў усіх—9 чалавек. Я іх выстраіў і сказаў: калі паспрабуеце ўцякаць—сабака разарве.

Адзін з парушальнікаў, у якога ў рукаве быў нож, стаў варушыцца, хацеў, відаць, мяне

ударыць нажом. „Індус“ заўважыў—і цап яго за рукаў. Нож вылецеў.

Я іх вяду, а сам час ад часу аддаю загады чырвонаармейцам, якія нібыта ідуць за мною: „Як толькі хто будзе ўцякаць—страляйце адразу“.

Яны, бачачы, што са мною ніхто не перагаварваецца, усё адварачваюцца то ў адзін, то ў другі бок, каб паглядзець, колькі і хто ідзе збоку. А мы з „Індусам“ не даем ім глядзець па баках. Так і прывялі мы іх на заставу.

Тут яны ўбачылі, што вёў іх я адзін, але было ўжо позна“.

* * *

Гэтай вясной „Індус“ выратаваў жыццё свайму праваднiку.

Было гэта так: праваднік з байцом Шылавым адправіўся ў чарговы нарад. Каля Мадзянага вострава на рацэ Суйфынь „Індус“ затрывожыўся. Мабыць, там хто-небудзь ёсць.

Пагранічнікі з сабакам пераправіліся на старой лодцы на востраў. Агледзелі яго— нікога няма, толькі некалькі сабак забегла сюды з манчжурскага боку.

Пагранічнікі паплылі назад. А ў гэты час вада ад вялікіх дажджоў прыбыла. Рака ператварылася ў бурны паток. Лодка з пагранічнікамі перакулілася. Людзі і сабака апынуліся ў вадзе. „Індус“ зараз-жа пераплыў раку і ўсеўся на беразе. Але пагранічнікі былі адзеты і ўзброены. Яны не маглі доўга трымацца на вадзе і сталі тануць. Карацупа паклікаў на дапамогу „Індуса“. Сабака падплыў да гаспадара, сцягнуў з яго шлем і адправіўся к берагу.

Карацупа захлынаўся. Ён яшчэ раз клікнуў „Індуса“ і знік пад вадой. „Індус“ кінуў шлем і нырнуў. Ён ухапіўся зубамі за плячо гаспадара і стаў плысці к берагу. Калі Карацупа быў выратаваны, сабака кінуўся на дапамогу байцу Шылаву.

— Я ніколі не плакаў,—гаварыў потым Карацупа.—Шылаў таксама не з палахлівых, але каб вы бачылі, як скакаў між намі „Індус“, як лізаў нам твары і рукі, радуючыся нашаму збаўленню, вы не зрабілі-б нам папроку за слёзы, пралітыя ў гэтую ноч на беразе Суйфыні.

## АДЗІН СУПРОЦЬ ТРЫЦЦАЦІ

Пагранічнікі Іван Труноў, Сцешэнка і Джуканаў былі ў дазоры. У поўдзень з-за граніцы паказалася чалавек трыццаць узброеных бандытаў-басмачоў. Заўважыўшы пагранічнікаў, бандыты падзяліліся на тры часці і адкрылі па іх агонь.

Старшы нарада Труноў загадаў канаводу Джуканаву завесці каней у закрытае месца. У гэты час з правага боку з'явілася шэсць бандытаў. Яны хацелі зайсці пагранічнікам у тыл. Астатнія бандыты не спынялі абстрэлу пагранічнікаў. Яны былі ўжо на совецкай зямлі.

Джуканаў, адвёўшы коней, прыбег на дапамогу таварышам, але быў ранены ў правую нагу. Бандыты кінуліся ў атаку. Сцешэнка, прыўстаўшы, каб заняць больш зручную пазіцыю, быў забіт варожай куляй. Тады Труноў загадаў раненаму Джуканаву ехаць за дапамогай, а сам астаўся адзін супроць усёй банды ворагаў.

Бандыты некалькі разоў спрабавалі падыйсці да Трунова і забраць яго ў палон. Але Труноў спакойна падпускаў іх на метраў сто і, добра прыцэліўшыся, спускаў курок. Ён ведаў, што дапамога прыдзе не раней, чым праз дзве гадзіны, трэба было эканоміць патроны.

Бандыты акружылі яго з усіх бакоў. Асмялеўшы, яны падышлі вельмі блізка. Тады Труноў нечакана ўстаў і кінуў гранату...

Калі падаспела дапамога, у бандзе не хапала 8 чалавек, якіх забіў бясстрашны пагранічнік. Рэшта бандытаў была таксама знішчана.

ЦВК СССР узнагародзіў чырвонаармейца Івана Трунова за праяўленае геройства пры ахове дзяржаўных граніц ордэнам Чырвонага сцяга.

# ЗА НАВУКУ

ЯКУБ КОЛАС

Зацiхаюць гонi i далiны.
Павучкi наткалi павуцiны,
Ды развесiлi на сонцы
Свае белыя красёнцы.

Ходзiць вецер полем з сумным спевам,
Дзе жытцо рунее новым севам.
Адышло ад нас ты, лета,
Жоўталiсцем лес адзеты.

Кончылiся, дзецi, вашы гульнi
Каля светлай рэчкi, каля пунi,
I на жоўценькiм пясочку
I ў зялёненькiм лясочку.

Пахавайце вуды, стрэлы, лукi,
Прыступiце, дзецi, да навукi,
Каб было ўсё акуратна,
Каб вучыцца на выдатна.

Дык павучымся-ж мы зiму шчыра:
Вясна вернецца, а з ёю вырай.
Зноў мы слаўна пагуляем,
Свежых ягад назбiраем.

# ВЫДАТНIЦА



Марозавай Лене дзесяць год. У мiнулым годзе яна скончыла трэцi клас на „выдатна“ i атрымала пахвальную грамату.

Лене лёгка вучыцца. У школе яна ўважлiва слухае настаўнiка. Пасля заняткаў некалькi гадзiн гуляе з таварышкамi, а потым рыхтуе заданнi да наступнага дня. З усiх прадметаў Лена больш усяго любiць маляванне i спевы. Яна актыўная ўдзельнiца школьных вечароў самадзейнасцi.

Летам за выдатную вучобу райком комсамола Плешчанiцкага раёна паслаў Лену ў пiонерскi лагер Артэк. Вось што расказвае Лена аб сваiм жыццi ў пiонерскiм лагеры:

— Пра Артэк я шмат чытала ў дзiцячых газетах i журналах, але нiколi не думала, што i мне давядзецца пабываць у iм.

У Артэк сабралiся дзецi з усiх куткоў Совецкага Саюза, дзецi розных нацыянальнасцей. А як там прыгожа!..

Лагер акружаны горамi. Усюды растуць высокiя, цiкавыя дрэвы, зусiм не падобныя да нашых — магнолii, кiпарысы, чынары...

Кожны дзень мы купалiся ў моры i лавiлi на беразе крабаў. Былi ў нас усякiя цацкi: вялiкiя мядзведзiкi, слонiкi, лiсы...

Разам з намi адпачывалi iспанскiя пiонеры. Яны не ўмеюць гаварыць па-руску, але-ж мы разумелi адзiн другога. Настаўнiца iспанскiх дзяцей нам усё перакладала. Некаторыя з iх ужо ведаюць многа рускiх слоў.

Лена прывезла дадому фотаздымкi, якiя будуць напамiнаць ёй аб прыгожым Артэку.

Зараз Лена вучыцца ў чацвертым класе пасадскай школы. Гэты навучальны год яна абяцае так-жа скончыць на „выдатна“ i дапаможа ў вучобе сваёй таварышцы Анкуда Олi.

Плешчанiцы, в. Пасадзец

О. М

# ЗА ШТО Я ЛЮБЛЮ ТАВАРЫША СТАЛІНА

АПАВЯДАННЕ ЯКУЦКАГА ХЛОПЧЫКА



*Іллюша са сваім бацькам.*

— Наша краіна Якуція ляжыць каля Паўночнага Ледавітага акіяна. Краіна наша вялікая, пакрыта лясною тайгой. У якуцкай тайзе шмат звяроў: мядзведзі, гарнастаі, собалі, расамахі. І вельмі шмат вавёрак.

Бацьку майму было чатыры гады, калі памёр дзед ад сухотаў. Астаўся бацька са сваёй маткай. А на другі год аслепла на абодва вокі яго маці. З жаласці сляпую і дзяцей кармілі сваякі. Круглы год давалі ім зацірку. Туды кідалі жменю мукі і, каб было гусцей,— хваёвай кары.

У нашым наслезе[1]) была школа, адна на ўвесь улус[2]). На дзевяноста кілометраў кругом другой школы не было. Вучылася ў школе чатырнаццаць чалавек.

Школа змяшчалася ў маленькай цёмнай хаце. У вокнах замест шкла быў лёд. Калі цямнела, запальвалі сальныя свечкі.

Чатыры разы на дзень збірала настаўніца вучняў, ставіла перад драўлянай іконай і прымушала чытаць рускія малітвы. А хто дрэнна маліўся, таго настаўніца ставіла ў кут каленамі на востры канец палена.

За чатыры гады мой бацька вывучыў толькі буквар ды сорак рускіх малітваў.

Потым наняўся бацька ў прыслужнікі да багатага купца Масквіціна. Ад купца пайшоў да прамыслоўцаў-звераловаў на астравы за палярным кругам. Адпраўляючыся туды на сабаках, людзі прывязвалі да спіны па тры гладка выструганыя дошчачкі—на выпадак смерці—на тым свеце ў труне будзеш. Так верылі тады якуты.

У 1919 г. вярнуўся бацька. У гэты час рабочыя скінулі ўладу белага генерала Калчака.

Доўга яшчэ змагаліся супроць савецкай улады мясцовыя кулакі і купцы. Ім дапамагалі калчакоўскія генералы. Калі з'явілася ў Якуціі банда генерала Папеляева, майго бацьку назначылі начальнікам чырвонага баявога атрада.

Так расказаў мне бацька.

А зараз я раскажу вам, рэбяты, як жыву я. Мяне завуць Ілля. Мне дванаццаць год. Я піонер. У школу я пайшоў, калі мне было восем год. У нашым улусе шаснаццаць школ. Цяпер у Якуціі вучацца ўсе рэбяты. Школа новая, светлая, у класах і калідорах стаяць вазоны з кветкамі. Вучымся мы на роднай мове, па новых якуцкіх вучэбніках. Больш за ўсё я люблю займацца рускай мовай і фізкультурай.

Я ўжо год жыву ў Маскве. Мой бацька—студэнт. Хутка ён канчае вучобу і мы вернемся ў Якуцію. Мне хочацца хутчэй сустрэцца з маімі таварышамі.

Я раскажу ім пра маўзалей Леніна, пра Музей Рэволюцыі. Я раскажу пра метро. Як там пад зямлёй ходзяць трамваі, як там прыгожа. Раскажу пра заапарк. Мне там больш за ўсё спадабаліся слон і малпы.

Мы часта спрачаемся з мамай, кім я буду, калі вырасту. Мама хоча, каб я быў доктарам. Яна кажа, што гэта карысна для нашага народу. А я хачу стаць лётчыкам.

Маё жыццё зусім не падобна на жыццё майго бацькі і ўсіх якуцкіх дзяцей да рэволюцыі. Шчаслівае і радаснае жыццё дала нам савецкая ўлада, даў вялікі правадыр наш таварыш Сталін. Вось за гэта я вельмі люблю таварыша Сталіна.

Ілля **Вінакураў.**

[1]) Сяло.
[2]) Раён.



# Андрэй Птаха і Васілёк



## Н. ОСТРОЎСКІ

Мал. Г. Змудзінскага

**Гэта было ў часы грамадзянскай вайны.**

**Горад захоплены белапалякамі. Дзікую расправу чыняць яны над рабочымі. Жандары забілі слёсара Глушко.**

**Качагар Андрэй Птаха запіраецца ў кацельнай завода і падае трывожныя гудкі, каб народ падымаўся. Горад узбударажаны. Польскія ахраннікі акружаюць кацельную, робячы спробу забіць Андрэя і спыніць гудок. Андрэя ратуе яго брат Васілёк. Аб гэтым вы і прачытаеце ў друкуемым урыўку з кнігі Н. Астроўскага „Народжаныя бурай“.**

Андрэй накінуў жалезныя крукі на дзверы, засунуў свой лом паміж дзвярнымі ручкамі і зноў схапіўся за кальцо. Зноў, патрасаючы паветра, зароў гудок, перарывісты, страшны, веснік няшчасця. Ён прымусіў усіх у горадзе выбегчы на вуліцу. Ён уздыбіў рэдкія валасы заводчыка Баранкевіча. Ён прымусіў збялець капітана Врону і кінуў у дрыжыкі жандара Дзёбека. У турме напружана прыслухоўваліся да гэтага рэву. З нямецкага эшалона выбягалі салдаты і аглядваліся кругом. А гудок усё роў...

У дзверы кацельнай ламаліся ахраннікі. Але каваныя жалезам, цяжкія дзверы не краталіся пад ударамі іхніх прыкладаў.

— Нясіце лесніцу! Марш да вокан! Страляй па ім!—крычаў капрал ахраннікам.

Андрэй даведаўся пра небяспеку толькі, калі ў акно грукнуў стрэл. Куля свіснула каля яго галавы.

Ён міжвольна выпусціў кальцо. Рэў змоўк. Ратуючыся ад новага стрэлу, Андрэй кінуўся да вугальнай ямы.

Выцягнуўшы рукі з карабінам уперад, у акно пралазіў легіянер. Птаха замітусіўся ў вугальнай яме, як злоўленая мыш. Ён адчуваў, што прыходзіць канец яго бунту. Яго ахапіў адчай.

Акно было вузкае, і легіянер ледзь пратыснуўся ў яго адным плячом. Ззаду яго папіхалі. Тады Андрэй схапіў кавалак антрацыта і, рызыкуючы быць забітым, выскачыў з ямы. Размахнуўся, з сілаю шпурнуў вугалем у акно і папаў у твар легіянера. Той завыў. Ён выраніў карабін і паваліўся на рукі трымаючых яго знізу ахраннікаў. Карабін ляснуў аб цэментавую падлогу кацельнай. Зноў бабахнуў стрэл. Андрэй ашалеў ад радасці. Ён бамбардыраваў акно каменным вугалем.

За акном пачулася дзікая лаянка. Людзі з лесніцы, спяшаючыся, спаўзалі на зямлю.

Андрэя ахапіла лютасць. Ён зняў сваю папружку і прывязаў ёю кальцо да рэгулятара даўлення. Гудок зноў зарычэў.

Цяпер рукі Андрэевы былі вольныя. Баючыся нападу знячэўку, ён бесперапынна шпурляў вугалем у акно.

У запале барацьбы Птаха забыўся, што ў кацельнай ёсць яшчэ два акны. Толькі калі з абодвых зачыненых вокан вылецелі шыбы і са сцен пасыпалася штукатурка, Андрэй з жалем зразумеў, што з трыма

вокнамі яму не справіцца. У адным з вокан з'явілася дула карабіна. Андрэй злосна шпурнуў туды каменем. Але стрэл з другога акна прымусіў яго адскочыць назад.

— Вось цяпер канец!—сказаў Андрэй і ледзь не заплакаў. Адвага пакідала яго.

Ён адразу адчуў цяжкую стомленасць. І, ужо адмовіўшыся ад супраціўлення, прысеў у кутку ямы. Штосьці балючы ткнула яго ў бок. Птаха міжвольна схапіўся за прадмет, на які наткнуўся. Гэта быў наканечнік пажарнай кішкі, якою качагары карысталіся для змочвання вугалю.

У стомленай свядомасці нешта мільганула.

— А-а! Вы думаеце, што мяне ўжо ўзялі, гады, панскія душы! Зараз паглядзім!—крычаў ён, хоць яго ніхто не чуў з-за дзікага рэву.

Андрэй як мага круціў кола, якое адводзіць ваду ў шлангу. Пара з зычным свістам вырвалася з брандспойта. Услед за ёю хлынула гарачая вада. Вугальная яма напоўнілася параю. Андрэю не стала чым дыхаць. Дрыжачымі рукамі ён схапіў брандспойт, і апякаючы пальцы, пакутуючы ад гарачых вадзяных пырскаў, накіраваў струмень кіпню ў кацельную.

І ўжо не думаючы аб тым, што яго могуць забіць, запусціў струмень па вокнах. Ён скакаў, як дзікун, ад радасці, слухаючы, як завылі за вокнамі. Цяпер, седзячы між катлоў, ён варочаў брандспойтам, не высоўваючы галавы і паліваючы вокны кіпнем.

Сэрца яго рвалася ў грудзях. Уся кацельная напоўнілася парам. Па падлозе лілася гарачая вада. Андрэй ратаваўся ад яе на падмуроўцы катла. Яму было душна, пякло рукі, але другога выхаду не было, і ён не здаваўся.

Рэў нёсся па гораду.

Васілёк прабраўся на завод з першай групай рабочых, якія прышлі на змену. Ён што-б там ні было хацеў першым расказаць брату, як забілі дзядзьку Сяргея, іх суседа.



*Эскадрон Зарэмбы ачышчаў двор.*

Васілёк не раз прабіраўся да брата, нават у час работы, як вуж, пралазячы між рабочых, мінаючы старажоў. Часта цэлыя змены праводзіў ён з братам у кацельнай, стараючыся быць яму чым-небудзь карысным. Качагар любіў гэтага шустрага хлапчука, які хутка пераймаў ад яго качагарскую справу.

Адзін раз ён нават трапіў на вочы пану Струмілу, але качагары заступіліся за хлопчыка, і механік махнуў рукою. Хлопчык памагаў качагарам разгружаць вагоны з вугалем, ведаў у кацельнай усе ходы і выхады, і хутка знайшоў сабе зручны пралаз, праз які прабіраўся ў кацельную, абмінаючы ўсіх дзвярных кантралёраў. Ён прабіраўся на вугальны двор, залазіў у шырокую вентыляцыйную трубу, па якой спускаўся да выграбной ямы, куды звальваўся адпрацаваны вугальны шлак. Потым па жалезнай бэльцы дабіраўся ён да вугальнай ямы, а адтуль, адваліўшы два-тры кавалкі антрацыту, пападаў у кацельную, у выемку, з якой бралі вугаль. Свой сакрэт Васілёк хаваў ад усіх, нават ад брата. Яму было прыемна з'яўляцца неспадзявана і здзіўляць качагараў сваім спрытам, з якім ён прабіраўся міма кантралёраў.

Жах ахапіў Васілька, калі ён даведаўся, што Андрэй запёрся ў кацельнай і што яго хочуць забіць. Хлопчык з заміраючым



*— Андрушка, гэта я...*

сэрцам сачыў за спробамі легіянераў забрацца ў кацельную.

Калі гэтая спроба правалілася, радасці яго не было канца. Васілёк мітусіўся сярод рабочых і, гледзячы поўнымі ад слёз вачыма, пытаўся ў знаёмых качагараў:

— Скажыце, дзядзька, што яны з ім зробяць?

Качагары хмурыліся і маўчалі. А адзін узяў яго за руку і адвёў у бок:

— Уцякай адгэтуль, пакуль жывы! Адзін ужо дастукаўся... Ці хочаш, каб і табе галаву скруцілі пад гарачую руку?

Васілёк адышоўся ад яго. Абліваючыся слязамі, зноў пабег глядзець, што робяць легіянеры.

За тым, што адбывалася ў кацельнай, наглядалі ўсе рабочыя, затрыманыя на заводскім дварэ. Адчайная адвага аднаго чалавека, якога не маглі перамагчы ўзброеныя легіянеры, заваявала сэрцы ўсіх гледачоў. Панурыя, змучаныя цяжкай працай людзі адчувалі ў супраціўленні аднаго чалавека дакор ім усім. А рэў не даваў забыцца аб гэтым ні на адну хвіліну. Цяпер становішча Птахі глыбока трывожыла ўсіх. Хваліць яго сталі адкрыта, асабліва жанчыны. Пачуліся дакоры:

— Саромеліся-б, мужыкі, глядзець! Аднаго пакінулі на пагібель...

Пад уплывам усяго гэтага рабочыя адмаўляліся пакідаць двор. Польскія белыя легіянеры пусцілі ў ход штыкі. Кавалерысты адціскалі іх коньмі і хвасталі нагайкамі.

Раззлаваныя рабочыя сцягнулі з каня аднаго легіянера. Яго ледзь адбілі. З вялікімі цяжкасцямі эскадрон Зарэмбы ачышчаў двор.

Васілёк не знаходзіў сабе месца. Гэтую мільгаючую фігурку ўжо заўважылі легіянеры.

— Гэй, ты! Чаго табе тут? Стой! Куды бяжыш?—крыкнуў на яго адзін.

Васілёк нырнуў у гушчу народу і, працуючы локцямі і галавой, забраўся ў самую сярэдзіну. Баючыся, каб яго не злавілі, ён уцёк праз службовы ход на вугальны склад і тут толькі ўспомніў пра свой пралаз.

Дабраўшыся да вугальнай ямы, Васілёк доўга поўзаў па вугалю, балюча натыкаючыся на камені каленкамі і галавою, шукаючы праходу ў выемцы, і не знаходзіў яго. Ён быў засыпаны пазней прывезеным вугалем. Тады хлопчык стаў разграбаць вугаль, адцягваючы ў бок цяжкія кавалкі. Адзін з іх скаціўся назад і балюча ўдарыў яго па босых нагах. Васілёк упаў і доўга плакаў. Наплакаўшыся, ён зноў узяўся за работу. Ён ужо выкапаў невялікую яму. Але разграбаць рабілася ўсё цяжэй. Вугаль прыходзілася цягаць наверх і кідаць далей ад гэтага месца, каб ён не каціўся на галаву. Вугальны пыл лез у нос і вочы. Ён чыхаў і адплёўваўся. Але вугалю канца не было відаць. Васілёк падумаў, што ён не ў тым месцы капае. Яму стала крыўдна і страшна. Ён зноў заплакаў.

— Андрэй! Андру-у-шка!..—закрычаў ён з усяе сілы.

Андрэй падскочыў, нібы яго ўжалілі.

— Цьфу, чорт!

Яму здалося, што дзесьці за спіной плача Васілёк.

Птаха стаяў у вугальнай яме, трымаў карабін у руках і не адрываў вачэй ад вокан.

Брандспойт ляжаў тут-жа, каля яго. Пара, якая ледзь была не задушыла яго, павольна выходзіла праз вокны. У кацельнай стаяў змрок і духата.

Андрэю часамі здавалася, што ўсё гэта недарэчны сон. Ужо мінула тры гадзіны, а яго ніхто не выручаў. І ўсё, што ён зрабіў, нікому непатрэбна. Яго ўсё адно возьмуць і расстраляюць. І нікому да гэтага няма справы. Усе ў баку, толькі ён адзін, Птаха, павінен скласці сваю галаву...

— Андрушка!—неяк зусім блізка крычаў Васілёк.

Зверху скаціўся камень і балюча ўдарыў Андрэя па плячы. Услед за гэтым радасны крык: „Гэта я, Васька!“ утрымаў Птаху ад стрэлу.

Сапраўдны, жывы Васілёк спускаўся да яго. У Андрэя застукалі зубы пры думцы, што ён чуць не застрэліў брата.

— Андрушка, гэта я... Там іх наехала яшчэ многа... Цэлы двор на конях... і самы галоўны іхні... Уцякай адсюль! Тут дзірка ёсць... Я праз яе кожны раз лазіў. Толькі зараз вугалю насыпалі даверху, я не мог пралезці!—крычаў Васілёк у вуха брату, абнімаючы яго. Сэрца Андрэева закалацілася.



— Адкуль ты залез сюды?

— З вугальнага двара.

— Там ходу няма...

— А я праз трубу. Яна шырокая! І ты пралезеш. Хадзем, Андрушка, хадзем! Бо іх там наехала! Дзядзька Астап кажа, што яны цябе заб'юць!..—Васілёк цягнуў Андрэя.

— Лезь, а я—за табою.

Васілёк пакарабкаўся ўверх. Птаха яшчэ раз агледзеў кацельную, затухаючыя топкі і палез за ім.

... Калі яны выбраліся наверх, ішоў дробны дождж. Вугальны двор знаходзіўся за асноўнай заводскай тэрыторыяй, ад якой ён быў адгароджаны высокаю каменнаю сцяною. Сюды ішлі пад'яздныя чыгуначныя шляхі.

Васілёк пайшоў на разведку. Хутка ён вярнуўся і паведаміў, што на чыгуначных шляхах нікога няма.

Там пустыя вагоны стаяць у тры рады. Пад вагонамі можна прайсці, і ніхто не ўбачыць. А каля задніх варот нікога няма. Іх на замок закрылі. Мы на вагон узлезем, а з вагона на вароты—і гайда ў поле!—гаварыў Васілёк у самае вуха Андрэю.

Яны спаўзлі з вугальнай гары і, сагнуўшыся, пабеглі паміж вагонамі. План Васілька аказаўся выдатным. Апошні вагон стаяў каля самых варот. Яны пералезлі цераз рашотчатыя жалезныя вароты і кінуліся бегчы па чыгунцы.

# ВОСЕНЬ

**Я люблю залацістую восень,**
**Я люблю яе гоман і спеў,**
**Я люблю, калі вецер разносіць**
**Пажаўцелыя лісцікі з дрэў.**

**Ўся прырода мяняе аблічча,**
**Гусі з крыкам на поўдзень ляцяць,**
**Скора рэчка нас ў госці пакліча,**
**Скора ў снежкі мы будзем гуляць.**

**Перапоўніўся сад наш пладамі,**
**Апусцелі ў калгасе палі.**
**„Гэй, выходзьце на вуліцу з намі!**
**Мы расцем на шчаслівай зямлі“.**

**Нам калгасы заможнасць прыносяць,**
**Кожны любіць з нас працу сваю.**
**„Добры дзень, залацістая восень!**
**Усім сэрцам цябе я люблю“.**

Дзяткор **Гаўрук Васіль.**

# КАМО

Царская паліцыя была моцна занепакоена пошукамі незвычайнага маладога чалавека— Камо.

Выдатныя і смелыя ўчынкі Камо прыводзілі паліцыю і ўсіх жандараў у шаленства.

Спрытны і вынаходлівы Камо шмат разоў па-майстэрску ўнікаў з драпежных лап адурачанай паліцыі. Смяючыся з няздатнасці паліцыі, Камо перад самым яе носам праводзіў сваю справу, з'яўляючыся то ў выглядзе прадаўца садавіны, то прыгожа прыбраным панічом, то далікатным пажылым панам у капялюшы, то... ў адзенні грузінскага князя.

Хто-ж такі быў Камо? Гэта быў каўказскі большэвік, адважны і смелы рэвалюцыянер.

Нарадзіўся Камо ў 1882 годзе ў горадзе Горы Тыфліскай губерні. З самага маленства ён быў дасціпны і надзвычайна рухавы хлопчык.

У школе ён больш за ўсё любіў гісторыю. Яму вельмі падабаліся выдатныя героі, якія ў смелых бойках перамагалі сваіх



*Такім ён стаў у вар'яцкім доме.*



*Такім ён быў на Каўказе.*

ворагаў. Таксама ён любіў і геаграфію і марыў вандраваць у розных краінах свету. Хацелася бачыць Парыж, Грэцыю і Рым, дзе калісьці адбылося так многа розных гістарычных падзей.

У 1901 годзе Камо паехаў у горад Тыфліс прадаўжаць вучобу. Тут ён упершыню сустрэўся з таварышам Сталінам, які ў той час выхоўваў для барацьбы з царызмам каўказскую арганізацыю большэвікоў. Гэта сустрэча зрабіла рашаючы ўплыў на палкага і энергічнага юнака Камо. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ён уступае ў барацьбу з ворагамі рабочага класа.

Сапраўднае імя Камо—Сымон Аршакаў Тэр-Петрасян. Назву або прозвішча Камо́ даў яму таварыш Сталін. Гэта адбылося пры наступных абставінах. Таварыш Сталін і Камо сумесна працавалі. Якраз у гэты час увайшоў у пакой хтосьці з таварышоў і пачаў расказваць пра адно цікавае здарэнне. Камо ўважліва слухаў. Але ён слаба ведаў рускую мову і, не зразумеўшы таго, што гаварыў таварыш, запытаў: „Камо, слушы, камо?“ (замест „каму, каму“).

Усе прысутныя адвярнуліся да яго і паехалі са смеху. З таго часу таварыш Сталін інакш яго і не зваў як толькі Камо. Гэта назва засталася за ім назаўсёды.

У хуткім часе Камо стаў адным з найбольш актыўных рэвалюцыянераў на Каўказе.

Ён вельмі ўдала распаўсюджваў пракламацыі, рэволюцыйную літаратуру і наладжваў друкарні.

Каб унікнуць паліцыі, якая ўвесь час сачыла за ім, ён вельмі часта пераапранаўся ў адзенне кінто (адзенне вулічнага гандляра ў Тыфлісе), або ў адзенне грузінскага князя.

Некалькі разоў Камо арыштоўвалі і ён трапляў у турму. Але кожны раз яму ўдавалася ўцякаць з турмы не гледзячы на вялікія цяжкасці.

Аднаго разу, пасля вызвалення з турмы, Камо паехаў у Тыфліс. Ехаць давялося ў дзень царкоўнага свята. Поезд быў перапоўнены грузінскімі князямі, іграла музыка, і ўсе былі падвыпіўшы. Камо назваўся князем. Яго сталі паважаць, а ён у гэты час іграў на зурне. Калі поезд пачаў падыходзіць да тыфліскага вакзала, Камо паспрачаўся з адным князем, што ён не зможа прайсці ўсю платформу іграючы на зурне. Князь хацеў выйграць заклад, пайшоў з зурною, а следам за ім вялікі натоўп. Камо тым часам, скарыстаўшы мітусьню, наняў рамізніка і непрыкметна знік.

Усе крычаць, пытаюць, дзе князь, а князь як скрозь зямлю праваліўся.

Аднаго разу Камо затрымалі з забароненаю літаратураю і пасадзілі ў турму. Там яму пагражалі катаргаю, калі ён не выкажа сваіх таварышоў. Аднак, не гледзячы на шматлікія пагрозы і здзекі, Камо нікога не выдаў.

Яго таварышы—большэвікі дапамагалі яму вызваліцца з турмы.

Пра тое, як яму аднойчы ўдалося ўцячы з турмы, Камо расказвае наступнае:

„Выбраўшы зручны момант, я рвануўся, пераскочыў цераз сцяну і ўпаў; устаць было цяжка, але я ўсё-такі ўстаў і пачаў глядзець, дзе пагранічная варта. Я нацёр сабе шчокі, каб яны не былі такімі бледнымі, паправіў тужурку і, па мажлівасці спакойна, пайшоў да вугла вуліцы. Тут стаяў нейкі хлопчык. Ён запытаў у мяне, каторая гадзіна, а я папрасіў яго знайсці мне рамізніка. Я спакойна сеў на рамізніка і спакойна паехаў па адрасу, які атрымаў у турме“.

Найбольш выдатнай справай большэвіцкай баявой групы на чале з Камо быў напад на пошту ў Тыфлісе на Эрыванскай плошчы, 13 чэрвеня 1907 года. У гэтай справе Камо праявіў выключную знаходлівасць, ініцыятыву і гераізм.

Касір дзяржаўнага банка і рахункавод з пяццю казакамі і двума стражнікамі на двух рамізніках везлі з пошты ў банк вялікую суму грошай. Калі адзін з рамізнікаў праязджаў каля аднаго магазіна, неспадзявана з левага боку была кінута бомба. Раздаўся выбух. Уся плошча ахуталася дымам. Праз хвіліну раздаліся два выбухі, по-



*Камо ў адзенні грузінскага князя.*



*Камо ў адзенні вулічнага гандляра кінто.*

тым яшчэ два. Пачалася страшэнная паніка. Камо тым часам змог зняць мяшкі з грашмі і адразу знік. На шчасце, народу на плошчы было мала. У хуткім часе сюды прыбыло войска, аднак ні грошай, ні тых, хто зрабіў напад, не знайшлі.

Неўзабаве пасля гэтага Камо паехаў у Пецербург, а адтуль перавёз грошы ў Фінляндыю, дзе ў той час жыў Владзімір Ільіч Ленін. Грошы былі перадany большэвікам на рэволюцыйныя патрэбы.

Праз некаторы час Камо давялося выехаць за граніцу, у Германію. Але ў хуткім часе ён быў арыштаваны ў Берліне нямецкай паліцыяй. Там яго выдаў адзін правакатар.

Камо пагражала небяспека папасці ў рукі рускай паліцыі, а гэта значыць быць пакараным смерцю.

Камо смерці не баяўся, але ён ведаў, што яго жыццё патрэбна партыі, і парашыў выратавацца. З гэтай мэтаю ён пачаў прытварацца вар'ятам. Каб устанавіць, ці ён сапраўды звар'яцеў, паліцыя перавяла яго ў бальніцу. Там яго калолі шпількамі, прыпякалі цела распаленым да чырвані жалезам.

Пераносячы цярпліва страшэнныя пакуты, Камо не змяніў сваіх паводзін.

Тады яго пасадзілі ў адзін пакой з сапраўднымі вар'ятамі, якія білі адзін аднаго, калолі і грызлі.

Два гады лепшыя нямецкія дактары не маглі ўпэўніцца ці сапраўды Камо звар'яцеў ці толькі прытвараецца.

Не гледзячы на тое, што дактары прызналі Камо вар'ятам, германскі ўрад выдаў яго царскай паліцыі.

Ён быў дастаўлен з Берліна ў Тыфліс і там пасаджаны ў Мецэнскую турму.

У турме ён знаходзіўся яшчэ два гады пад асабліва пільным наглядам, пераносячы шмат пакуты. Але ўрэшце пры дапамозе таварышоў яму ўдалося ўцячы.

Пасля гэтага ён выехаў за граніцу, у Парыж. За граніцай ён аб'ездзіў шмат краін, але яго цягнула назад на бацькаўшчыну, дзе яго чакала рэволюцыйная работа.

Неўзабаве Камо вярнуўся ў Расію, але быў выданы правакатарам. Камо, закаванага ў ланцугі, судзілі і прыгаварылі да пакарання смерцю, якое замянілі дваццацігадоваю катаргаю.

На гэты раз яго вызваліла рэволюцыя.

Пасля вызвалення Камо прымаў удзел у грамадзянскай вайне, а пасля вайны быў пасланы вучыцца ў ваенную акадэмію.

У 1922 годзе Камо, вяртаючыся дадому на веласіпедзе, трапіў пад аўтамабіль і загінуў.

Камо недабачыў на адно вока, якое было паранена ў часе выбуху бомбы, і таму не мог заўважыць аўтамабіля, што праходзіў міма яго. Такім чынам недарэчная смерць спыніла жыццё гэтага смелага і адважнага рэволюцыянера.

Памяць пра выдатнага большэвіка Камо не загінула і назаўсёды застанецца сярод працоўных.

**Я. Герасімовіч.**

# ІСПАНСКІЯ ДЗЕЦІ

## ХЛОПЧЫК З КАРДОВЫ

Сяляне, уцякаючы ад фашыстаў, знайшлі гэтага хлопчыка за горадам. Была ноч. Хлопчык дрыжаў ад холаду.

Яго прывялі на нашы пазіцыі. У шырока раскрытых вачах дзіцяці свіціўся жах.

На беднай палапленай куртачцы блішчаў значок адной з кардоўскіх школ. Гэтую школу аснавалі былі рэспубліканцы. Цяпер фашысты занялі горад, і школы ператварылі ў казармы для сваіх бандаў.

Хлопчыку восем год, але на выгляд яму ад сілы можна даць шэсць. Гэта самы маленькі з усіх бежанцаў, якія прыбылі да нас. Ён выглядзіць вельмі худым і зусім хворым.

Мы з любоўю акружылі яго. Хлопчык здзіўлена глядзіць на нас, стараючыся зразумець, дзе ён знаходзіцца. Адзін з дружыннікаў узяў вінтоўку і сабраўся ісці на пост. Хлопчык убачыў гэта і закрычаў. Калі дружыннік пайшоў, ён супакоіўся.



*Іспанскі хлопчык дапамагае старэйшым капаць акопы.*

Таварышы з МОПР (Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам) прынеслі малака і свежага хлеба. Хлопчык хутка глытае яду. Шчокі яго ружавеюць, вочы пачынаюць блішчаць. Цяпер ён размаўляе з намі. Ён сказаў нам сваё імя—Куро завуць яго.

— А дзе-ж твой бацька?—пытаемся мы.

— Расстралялі фашысты,—кажа хлопчык. Потым крыху памаўчаўшы дадае:—Маму таксама...

Хлопчыка паклалі спаць.



*Мадрыдская піянерка Трынья Горкахада. На яе світары вышыта звязда з сярпом і молатам. Трынья з гонарам носіць яе.*

Праз некаторы час я зноў сустрэўся з Куро. Ён вельмі змяніўся. Куро загарэў, паправіўся. Ён жыве цяпер у нядаўна арганізаваным дзіцячым доме. У гэтым доме знаходзяць прытулак дзеці, якія мелі няшчасце страціць бацькоў.

**Фернандо Ф. Рувельтэ**

## МАЛЕНЬКІ САЛДАТ

П'еро прышоў да нас і стаў прасіцца, каб яго прынялі ў роту. Мы пасмяяліся. Які-ж з яго салдат! Яму толькі дзесяць год.

Пасля гэтага пра П'еро ніхто не ўспамінаў. Наша часць дастаўляла на пазіцыю зброю цераз горы. Вазіць прыходзілася на мулах.

І вось у адзін дзень П'еро прышоў зноў да нас. Але на гэты раз не адзін, а з сваім вялізным мулам. Ён даведаўся, што мулы для вайны маюць такое-ж значэнне, як і гарматы.

П'еро прапанаваў нам свайго мула, але з умовай каб яго прынялі пагоншчыкам. Начальнік наш на гэты раз здаўся. Мы не маглі ўтрымацца ад смеху, калі П'еро стаў таргавацца з начальнікам.

П'еро дабіўся свайго. Ён стаў салдатам, хоць і без вінтоўкі. Цяпер ён два разы на тыдзень перавозіць цераз горы на сваім вялізным муле ваенныя грузы.

**(З пісьма байца інтэрнацыянальнай брыгады)**

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

КАСТРЫЧНІК 1937 г. № 10

